www.nv-online.info

№ 64 (3805)

16 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*





**ГОРЯЧАЯ ТЕМА**

# Адрес первый. Кому свинью не подложили?

Срок до 15 августа был отведен в большинстве регионов Беларуси на то, чтобы жители деревень, оказавшихся в 5-километровой зоне от свинокомплексов, а также в буферной зоне от очагов АЧС, убили своих свиней. С сегодняшнего дня всех, кто не уничтожил свиное поголовье, власти будут наказывать. Для начала — штрафами.

Государственные СМИ рапортуют, что люди восприняли это указание без радости, но с пониманием. Хотя это, естественно, не так. Люди и бунтуют, и скандалят, и пишут в прокуратуру — кампания во всех регионах проходит по-разному. Однако нашелся один регион, где власти пошли навстречу людям.

К примеру, в Брагинском районе, наиболее пострадавшем от аварии на ЧАЭС, были уничтожены все "государственные" свиньи. А сельчанам пока разрешено держать свиней в свое удовольствие.

Как следует из доклада первого заместителя председателя Брагинского райисполкома, начальника управления сельского хозяйства **Петра Буховца,** район вошел в области в тройку аутсайдеров, допустивших снижение объемов производства продукции по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. Основной причиной невыполнения задания является недополучение животноводческой продукции: 1077 тонн молока, 17,7 тонны мяса КРС, 75,6 тонны мяса свиней (на 4,7 млрд рублей). По сравнению с прошлым годом выращивание КРС снизилось на 0,8%, свиней — на 99,9%, производство молока — на 8,4%.

Куда же делись из района 99,9% свиней? Об этом БелаПАН поинтересовался у Петра Буховца. Оказалось, что поголовье свиней в районе было сокращено в связи с африканской чумой.

*"Мы сократили вообще поголовье, нет свиней в районе. Очага АЧС у нас не было, но было указание, чтобы не распространять инфекционное заболевание, было принято решение райисполкома",* — объяснил первый зампред.

По его словам, решение райисполкома было принято еще весной. Заметьте, тогда слухи о страшной "свинской болезни" только начали курсировать, а власти, выходит, уже осознавали всю серьезность проблемы, но и позже продолжали отмалчиваться по вопросу очагов АЧС в Беларуси.

Три хозяйства Брагинского района — ОАО им.Жукова, "Маложинский" и "Брагинка" — лишились более 2,3 тысячи свиней.

Вместе с тем сельчане пока остаются со своим поголовьем. Местные власти среди граждан провели разъяснительную работу, раздали информационные материалы и памятки о необходимых мерах профилактики АЧС. К примеру, свиней нужно держать в закрытых помещениях, без контакта с другими животными, покупать корма только промышленного производства, вести борьбу с грызунами, не завозить свиней и продукцию свиноводства из других регионов без согласования с ветеринарной службой.

За плохие сельхозпоказатели районное начальство наверняка по головке не погладят. И тем не менее власти пошли навстречу людям. А это для нашей страны шаг беспрецедентный.

# Адрес второй. Под нож!

В деревне Селец Березовского района состоялось собрание местных жителей, на котором присутствовали 150 человек. На собрание были приглашены представители местной власти в лице председателя сельисполкома и специалистов райсельхозпрода. Крестьяне заявили, что считают поспешным решение о массовом забое свиней в личных подсобных хозяйствах. Ведь на территории района нет свиноводческих комплексов и не зафиксировано вспышек заболевания. Правда, пару домов деревни попали в 5-километровую зону от маленькой свинофермы, принадлежащей комбикормовому заводу. А если точнее — три дома. В двух домах, которые здесь называют хуторами, живут баба Оля и баба Вера. Обеим по 85 лет, и не только свиней, но и вообще никакой живности они давно не держат. Есть и еще один дом, в котором никто не живет. Тем не менее пустить под нож свиней должны все без исключения жители, а их 900 человек.


Деревня Селец. Неспокойно…

Они написали письмо в прокуратуру с просьбой пересмотреть границы 5-километровой зоны. *"Прокуратура направила письмо на рассмотрение в управление сельского хозяйства райисполкома,* — рассказала жительница деревни **Галина Чепелевич.** — *Но пока в установленные сроки дадут ответ, мы должны отправить свиней на убой".*

Главный ветеринарный врач областного комитета по сельскому хозяйству и продовольствию **Виктор Карпович** так прокомментировал ситуацию газете "Вечерний Брест":

*"На этой ферме в перспективе планируется содержать 8 тысяч свиней, и она будет приравнена к комплексу. По крайней мере, такова информация на сегодняшний день. Что касается реакции людей на профилактические меры, то она бывает разной: одни относятся с пониманием, другие реагируют весьма агрессивно, третьи консультируются с юристом. Недовольны в основном те, кто держит больше 10 свиней. Или многодетные семьи, для которых это источник дохода и пропитания. Мы предлагаем им переходить на "альтернативное" питание: выращивать кур, гусей, коз или нутрий, можно держать бычка и с таким же успехом кормить его картофелем и зерном. А провести по деревне в зоне безопасности разграничительную линию (эта часть попадает в радиус пяти километров, а та — нет) невозможно. Люди общаются между собой, ходят вместе в магазин или клуб, а значит, зараза может распространяться".*

Председатель Березовского райисполкома **Юрий Наркевич** также не намерен реагировать на протесты жителей. *"Это не решается голосованием,* — сказал он. — *В республике установлены единые сроки забоя свиней в зонах безопасности".*

Таким образом, в Березовском районе власти навстречу людям идти отказались.

**Подготовила Ирина МАЛЬЦЕВА.**

**КСТАТИ**

# Свиньям не жить

*В последние дни в редакцию "Народной Воли" постоянно звонят люди, которые живут в пятикилометровой зоне от свинокомплексов и которым сейчас велено уничтожить свиней. Звонят с одними и теми же вопросами: "Как долго продлится карантин? Когда можно будет вновь заводить свиней? Почему нам ничего не говорят?"*

Возможно, не говорят потому, что ответ никого не обрадует. Ведь даже после того, как африканская чума свиней перестанет представлять угрозу для хозяйств Беларуси, 5-километровая "зона отчуждения" продолжит существовать.

*"Согласно постановлению Минсельхозпрода о внесении изменений в санитарные правила по содержанию и выращиванию свиней, такое требование* (о запрете на выращивание свиней в районе 5 километров от свинокомплексов. — **Ред.**) *приобретает постоянный характер,* — сообщили "Народной Воле" в государственном учреждении "Ветеринарный надзор". — *Все останется неизменным либо до отмены положения в медсанправилах, либо до принятия кого-либо другого решения".*

Таким образом, решение по поводу свинокомплексов — это не временная мера и не карантин.

Напомним, что за невыполнение ветеринарных правил гражданам может грозить административная и уголовная ответственность. Штраф достигает 20 базовых величин, а за нарушение ветеринарных правил, повлекшее по неосторожности распространение заразных болезней животных, влечет уголовную ответственность — ограничение или лишение свободы на срок до двух лет.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

**ПУЛЬС**

## *Разанулі не шкадуючы*

Міністр адукацыі Беларусі **Сяргей Маскевіч** паведаміў, што колькасць педагагічных работнікаў ва ўстановах сярэдняй і дашкольнай адукацыі ў гэтым годзе скароціцца на 7 тысяч чалавек.

Паводле яго слоў, гэта звязана з закрыццём малакамплектных школ на вёсцы, а таксама з выхадам некаторых педагогаў на пенсію. У новым навучальным годзе ў краіне спыняць дзейнасць 130 устаноў сярэдняй адукацыі, адкрыюцца тры новыя школы на 1 тысячу 701 месца і адна дашкольная ўстанова на 240 месцаў.

Паводле слоў міністра, працоўных месцаў для педагагічных работнікаў у Беларусі аж зашмат. Да прыкладу, у Мінску ёсць вольныя працоўныя месцы ў дзіцячых садках. У Мінску, сапраўды, так. А на вёсцы?

## *Акно ў Еўропу*

ЗАТ "Беларуская нафтавая кампанія" — асноўны экспарцёр нафтапрадуктаў з Беларусі — мае намер пабудаваць ці купіць тэрмінал у Рыжскім порце або порце Вентспілс.

Пра гэта паведамляе балтыйскае выданне Biznes & Baltija са спасылкай на Андрэя Маркушу, старшыню праўлення латвійскай TransBaltic Oil, якая з'яўляецца дачцынай кампаніяй "Беларускай нафтавай кампаніі".

TransBaltic Oil ужо задзейнічае для сваіх паставак ад 5 да 7 тэрміналаў у латвійскіх партах. Тым не менш кампанія вырашыла займець свой тэрмінал, які будзе выкарыстоўвацца для захоўвання нафтапрадуктаў і наступнага продажу іх у Латвіі і іншых краінах Балтыі.

## *Альбо за руль, альбо за чарку*

У Беларусі зацверджана новая інструкцыя аб парадку правядзення кантролю вадзіцеляў на ўжыванне алкаголю і наркатычных рэчываў.

Цяпер кіроўцаў могуць правяраць на алкаголь не толькі перад выездам, але і падчас працы, а таксама ў канцы рабочага дня. Акрамя таго, інструкцыя цяпер зацверджана і ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі — на алкаголь пачнуць правяраць таксама вадзіцеляў трактароў, камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі.

Рашэнне, канешне, актуальнае. Але ці будзе каму працаваць?

## *Аматар дзяўчат і халявы*

Яшчэ ў лютым Галоўнае ўпраўленне ўласнай бяспекі (ГУУБ) МУС зацікавілася дзейнасцю лейтэнанта міліцыі РУУС Фрунзенскага раёна Мінска.

Лейтэнант працаваў у органах унутраных спраў з 2007 года і паспеў даслужыцца ўсяго да інспектара-дзяжурнага ГАМ-3 (гарадскога аддзела міліцыі). Цікавасць ва ўласнай бяспекі 25-гадовы міліцыянер выклікаў тым, што ён прымусіў дзвюх дзяўчат, якія прыехалі ў Мінск з Гродзенскай вобласці, каб падзарабіць прастытуткамі, аказваць яму інтымныя паслугі бясплатна.

Гаворка ідзе пра так званыя "суботнікі", падчас якіх дзяўчаты бясплатна абслугоўваюць свой "дах". Для ціску на дзяўчат лейтэнант выкарыстаў легенду, што ён з'яўляецца аператыўнікам аддзела маральнасці і процідзеяння гандлю людзьмі. Маўляў, вы мяне аблашчыце, а я вас чапаць не буду.

У ходзе дадатковай праверкі высветлілася, што такім чынам абвінавачаны апрацаваў не дзвюх, а больш за 10 дзяўчат, кожная з якіх яго бясплатна абслугоўвала.

Як распавялі ў Следчым камітэце, расследаванне крымінальнай справы ўжо завершана.

Матэрыялы перададзены ў суд, і туды ж адправіцца і аматар халявы, цяпер ужо былы супрацоўнік міліцыі.

**НУ І НУ!**

## *У Мінску трэці раз чакалі дэлегацыю з Нігерыі, а яна зноў не прыляцела*

Прадстаўнікоў дзелавых колаў далёкай афрыканскай краіны сустракалі ў Нацыянальным аэрапорце Мінск.

*"Паехалі сустракаць у аэрапорт, але дэлегацыя з невядомых прычын не прыбыла",* — цытуе словы прадстаўніка Беларускай гандлёва-прамысловай палаты БелаПАН.

Такім чынам, візіт нігерыйцаў сарваўся ўжо трэці раз. Першапачаткова ён планаваўся ў канцы ліпеня. Дэлегацыю афрыканскіх гасцей мусіў ачоліць дырэктар аддзела фінансаў і паставак Гандлёва-прамысловай палаты штата Кана Учэ Чыбузор. Яго хацелі павазіць па беларускіх прадпрыемствах, якія выпускаюць сельскагаспадарчую тэхніку, абсталяванне, аўтамабілі і матацыклы.

На 15 жніўня было запланавана адкрыццё ў Мінску бізнес-форуму "Беларусь — Нігерыя".

**УВАГА!**

# Лепш не ехаць

Хваля гвалту, якая захліснула Егіпет, дакацілася і да курортных гарадоў. У краіне на месяц уведзена надзвычайнае становішча, а ў 11 правінцыях — каменданцкая гадзіна. У зоне дзеяння каменданцкай гадзіны апынуліся прыбярэжныя гарады Сінайскай паўвыспы, у тым ліку курорт Шарм-эль-Шэйх.

Міністэрства замежных спраў Беларусі выступіла з афіцыйнай заявай:

*"У сувязі з абвастрэннем унутрыпалітычнай абстаноўкі ў Егіпце Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь раіць беларускім грамадзянам, якія знаходзяцца на адпачынку ў Егіпце, устрымацца ад паездак за межы курортных зон, выключыць наведванне Каіра і іншых буйных гарадоў, пазбягаць месцаў з вялікай колькасцю людзей, падчас знаходжання за межамі гатэляў выяўляць павышаную асцярожнасць. Турыстам, якія знаходзяцца ў раёнах дзеяння каменданцкай гадзіны, у прыватнасці на курортах Паўднёвага Сіная (гарады Шарм-эль-Шэйх, Дахаб, Нувейба і Таба), варта не пакідаць тэрыторыі гатэляў з 19.00 да 06.00. У гэтых умовах грамадзянам Беларусі, якія плануюць свой адпачынак у рэгіёне, рэкамендуем устрымацца ад наведвання Егіпта да нармалізацыі сітуацыі ў краіне".*

Сапраўды, на такі адпачынак лепш не ехаць. Тым больш што экскурсіі ў сталіцу, як, зрэшты, і ў іншыя цікавыя месцы (напрыклад, у Гізу да пірамід), забаронены.

Неспакойна і ў Хургадзе, хаця гэты курорт у заяве беларускага МЗС не называецца. Тут ісламісты, якія падтрымліваюць зрынутага прэзідэнта Мухамеда Мурсі, спачатку занялі цэнтральную плошчу, а потым напалі на аддзяленне паліцыі і на аўтавакзал, з якога ідуць аўтобусы на Каір і Александрыю.

Паліцэйскія і ваенныя адказалі даволі жорстка: пратэстоўцы былі разагнаны, а для бяспекі горада дарогі былі перакрыты блок-пастамі. Атэлі знаходзяцца прыкладна ў пяці кіламетрах ад месца беспарадкаў, таму турыстам там, мякка кажучы, не вельмі ўтульна.

Амбасада Рэспублікі Беларусь у Егіпце працягвае працу, хаця некаторыя дыппрадстаўніцтвы ўжо зачыніліся. Таму на ўсялякі выпадак друкуем тэлефоны консульскай службы беларускай амбасады:

**(+20 2) 3338 95 45, 3749 91 71, мабільны (+20 122) 220 52 60.**

**ЗДАРЭННЕ**

# Бландзінкі пад дуламі аўтаматаў



У інтэрнэце з'явілася відэа, на якім дзве бландзінкі пад дуламі аўтаматаў прызнаюцца, што працавалі ў Сірыі на ліванскую "Хезбалу". Адна з дзяўчат сцвярджае, што яна беларуска. І сапраўды, сваякі апазналі на відэа жыхарку Жодзіна Святлану Маркіянавіч.



Беларускі МЗС заявіў, што ўстрывожаны з'яўленнем гэтага відэа і займаецца вывучэннем усіх абставін. Гэтым пакуль афіцыйная рэакцыя і абмежавалася.

А вось неафіцыйнай рэакцыі шмат.

Анхар Кочнева, журналістка з Дамаска, украінка па паходжанні, змагла каля пяці месяцаў таму ўцячы з палону паўстанцаў. Яна лічыць, што за дзяўчат будуць патрабаваць выкуп. І ў сувязі з апошнімі падзеямі ўзгадвае інцыдэнт, які адбыўся ў Ліване. Там у горадзе Захле правінцыі Бека (на ўсходзе краіны) у ноч з 23 на 24 мая гэтага года з начнога клуба зніклі чатыры артысткі. Дзяўчаты выйшлі з памяшкання клуба разам з наведвальнікам і больш не вярнуліся. Іх месцазнаходжанне не ўстаноўлена, а пошукам займаюцца ўсе сілавыя структуры Лівана.

Праўда, адна са зніклых — украінка — была вызвалена яшчэ ў сярэдзіне ліпеня. Высветлілася, што пасля выкрадання дзяўчат перавезлі ў Сірыю. Не выключана, што беларуска і малдаванка — менавіта з тых дзяўчат.

Бабуля Святланы Маркіянавіч Зінаіда Міхайлаўна здолела расказаць толькі наступнае: "*Так, у мяне ёсць унучка Святлана. Яна з'ехала кудысьці за мяжу. Абяцала вярнуцца ў верасні. Яна паехала і мне не тэлефанавала, дзе яна і што з ёй. Напэўна, працуе там, за мяжой. Яна заўсёды туды ездзіць. Але я не пытаюся, дзе яна там працуе. Мне ўжо дзявяты дзясятак, а яна маладая, сама ведае, што рабіць. Я чакаю яе ў верасні, яна так мне сказала, калі з'язджала".*

Маці Святланы памерла, бацька даўно жыве сваім жыццём.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

З каментарыяў і інтэрнэце. Ананімны аўтар прадставіўся як уцякач з Сірыі.

"Ільвам Алаха *(маюцца на ўвазе палявыя камандзіры. —* **Рэд.**) не пісаў, бо гэтыя дзеўкі — не вашы і не мае сваякі, а проста дзеля "знаёмых" трывожыць воінаў непрыстойна — у іх кожны дзень, як апошні. Напісаў некалькім братам, якія знаходзяцца ў гушчы падзей, і вось якія ў іх думкі:

1) Навошта "Хезбале" выкарыстоўваць для сваіх мэт дзвюх рускіх бландзінак, якія кідаюцца ў вочы і вылучаюцца з агульнай масы?

2) Калі відэа не пастановачнае, то чаму паўстанцы, якія захапілі іх, не вылучаюць ніякіх патрабаванняў і ўмоў?

3) Чаму гэта дзяўчаты паводзяць сябе цалкам упэўнена і спакойна. Няўжо настолькі бітыя жыццём у такім юным узросце, што амаль не дэманструюць эмоцый?

4) У рэшце рэшт, калі ўсё гэта праўда, то што можна ўзяць з малдаваначкі і беларусачкі? Малдова і Беларусь граша меднага не дадуць за сваіх грамадзян!

Агульнае меркаванне — пастаноўка. І хутчэй за ўсё — не паўстанцкая. Чыйсьці ўкід. Магчыма, башараўскі. У самой Сірыі гэта не цікава нікому, тэма відавочна экспартная. Што зробяць потым з дзяўчатамі — сказаць цяжка. Магчыма, "выратуюць", магчыма, не. Па логіцы падзей — хутчэй выратуюць, чым не, — але бывае ўсякае, там цяпер лёгка забіваюць".

ЧЫМ ЖЫВЕШ, ГЛЫБІНКА?

# Ці патрэбна Смалявічам казіно, а дзяржаве — грошы?



У гандляроў на рынку ў Смалявічах панічны настрой. Нядаўна прадаўцы няхітрага тавару даведаліся, што адзіны на ўвесь горад рынак, які з даўніх часоў сфарміраваўся недалёка ад цэнтра горада, хутка зачыняць, а на яго месцы пабудуюць забаўляльны цэнтр з казіно.

Кожны з прадпрымальнікаў і пакупнікоў задаецца пытаннем: навошта гэта робіцца? Замест таго каб сустрэцца з гандлярамі і патлумачыць нешта ўцямнае, прадстаўнікі гарадскіх улад ім суха адказалі, што ў верасні-кастрычніку рынку не будзе. Яго, праўда, збіраюцца стварыць на новай пляцоўцы, але абсалютна не прыстасаванай для гандлю.

Прадпрымальніца **Галіна Мікалаева** кажа:



*— Мы ведаем толькі тое, што нейкі ліванец выкупіў гэтае месца і на ім збіраецца будаваць казіно. Ды на гэтым месцы нашы дзяды яшчэ ў старадаўнія часы прадавалі скаціну, мёд, валёнкі — усё, што тады трэба было! А новы рынак ён хоча адкрыць на маленькай пляцоўцы на беразе рэчкі. Пад'езду да яго няма, побач двухпалосная вузкая дарога, на якой спыніцца нельга, бо тады машыны не раз'едуцца. Пра санітарныя нормы я ўвогуле маўчу. Карацей, нязручна і прадаўцам, і пакупнікам. Ды і не магу я зразумець, чаму нашай дзяржаве грошы не патрэбны. Мы ж іх пасля пераносу рынку будзем плаціць аднаму чалавеку. І справа тут не ў тым, што ён іншаземец, а ў тым, што нас, карэнных жыхароў, проста за людзей ніхто не лічыць. У мяне маленькая крама, і я, дарэчы, выконваю дырэктывы прэзідэнта наконт таго, каб набывалі беларускае. У мяне 70% прадукцыі беларускай вытворчасці. Як я змагу пераехаць у пяціметровую будку?! Пра які тэмпературны рэжым там можна будзе гаварыць? А трэба ж яго вытрымліваць, каб хаця б тая ж касметыка не сапсавалася. І ў нас тут шмат гандляроў з маленькімі крамамі. Куды ім дзецца? Проста капец бізнесу! А мы ж не мільянеры якія. Людзі працуюць, каб толькі выжыць у сённяшніх умовах, уклалі грошы ў гэтыя свае магазінчыкі. Хто пра людзей падумае?*

Іншыя гандляры таксама не маўчаць. **Зоя Іванова** кажа:

*— Паглядзіце, які з нашых Смалявіч горад-спадарожнік беларускай сталіцы! Тут хаця б проста парадак трэба навесці. Дарогі ёсць і проста жахлівыя, будынкі — аварыйныя! Але да гэтага гарадскім уладам справы няма. Хто ім дазволіў прадаваць нашу зямлю? Чаму мы павінны працаваць на нейкага дзядзьку?! Мы хочам працаваць на сваёй зямлі, мы не заслужылі, каб нас проста выкідвалі, як смецце. Чаму б, напрыклад, не прывесці ў цывільны выгляд стары рынак? Мы самі дамагаліся, каб сюды святло правялі, самі ўсё ўладкоўвалі, скідваліся грашыма і за ўсё плацілі. Мы прапаноўвалі: давайце мы аб'яднаемся і самі зробім тут усё як трэба. Але нам адмовілі. Затое іншаземец з грашыма — прыходзь, ўлады цябе будуць рады вітаць. А нам няма куды дзецца? Каму тут патрэбна тое казіно?! Да нас людзі прыходзяць, каб набыць танны абутак, дзецям нешта з вопраткі танней, чым у крамах, купіць, гаспадарчыя тавары, інструменты... Сюды і бабулькі прыходзяць, каб прадаць пучок кропу ці колькі цыбулі. Хто сёння ў нас пойдзе ў тое казіно?! Мы разумеем, што да нас аэрапорт бліжэй, чым да Мінска, і не для нас тое казіно будзе будавацца. Але як жыць нам?.. Крыўдна ўсё гэта!*

Бачна, што большасць прадпрымальнікаў на смалявіцкім рынку — гэта жанчыны. Але мужчыны таксама ўключыліся ў размову. **Віктар Новік** расказаў, што ўжо 20 гадоў таму на гэтым месцы прадаваў разам з бацькам парасят.

*— Тады тут гарэў адзін ліхтар. Людзі прыходзілі са сваімі ліхтарыкамі, і толькі так можна было выбраць сала ці мяса — бо было ж цёмна. Прадавалі ў 4—5 гадзін раніцы. Канешне, рынак на балансе райпо, у якога грошай асабліва няма. А гарадскім уладам тут таксама, відаць, ніякай цікавасці няма. Ім прасцей усё распрадаць ды пацерці рукі. Вось і атрымліваецца, што гэта патрэбна толькі нам самім. Мая жонка мае кропку ў Жодзіне. Яна і арэнду меншую плаціць, а пакупнікоў там значна больш. Дык дзе выгадней гандляваць?*

Дырэктар рынку **Любоў Бруханава** прызнае, што рынак зусім не ў тым стане, каб яго зачыняць. Вось толькі ўсё вырашае райвыканкам, а не райпо.

*— Тут толькі прыбіральню трэба прывесці да ладу. І ёсць адзін будынак, у якім можна было б зрабіць цывільны туалет, — гаворыць дырэктар. — Толькі ў райпо грошай няма. Што такое сёння райпо? Мы абслугоўваем увесь раён. Мы ездзім па вёсках, зарабак кіроўцу, машына каштуе мільён штодня. А бывае, што за дзень абарот складае ўсяго 80 тысяч рублёў. Бывае 100 тысяч, бывае — 300 тысяч. У далёкія ж вёскі невыгадна прадпрымальніка не запрэш. А мы едзем і, вобразна кажучы, пачак запалак там прадаём. Вось што такое сёння спажыўкааперацыя... А на новым рынку будзе гаспадаром прыватнік. Ён грошы ўкладзе, а потым жа ён будзе зацікаўлены іх як мага хутчэй забраць. Ці я не маю рацыі?*

Прадпрымальніца, якая прадставілася **Алай Мікалаеўнай**, спытала:

*— Цікава, чаму так абыходзяцца і з прадпрымальнікамі, і з пакупнікамі? Хто выйграе ад гэтай сітуацыі? За якія-такія заслугі перад нашай радзімай выканкам вырашыў прадаць цэнтр горада нейкаму ліванцу? І чаму выканкам распараджаецца народнымі рэсурсамі, як сваёй уласнай маёмасцю? Ці можна так увогуле рабіць? Вось кажуць, што Смалявічы будуць горадам-спадарожнікам Мінска, што пачнуць тут даваць кватэры мінчанам. А ці падумалі, што гаспадаром у горадзе на той момант, па сутнасці, будзе іншаземец, які да таго часу выкупіць тут усё самае каштоўнае? Што гэта за дзяржава і што гэта за ўлада, калі тут такі дыход?*

**— А вы звярталіся да мясцовага дэпутата?**

*— Не (смяюцца. — **Аўт.**), нават у галаву такое не прыйшло. Мы навет не ведаем ягонае прозвішча. Ды і ўсе ж разумеюць, што гэты чалавек будзе апошнім, хто за нас заступіцца. На тое ён і дэпутат, каб сядзеў і не задаваў лішніх пытанняў.*

Куды і да каго ісці па дапамогу, у Смалявічах не ведаюць. Ёсць варыянт — спрабаваць неяк дастукацца да прэзідэнта. Але і ў яго мала хто верыць, бо не было яшчэ прыкладаў, каб Аляксандр Лукашэнка адстаяў інтарэсы людзей у канфліктах, замешаных на вялікіх грашах. Ну і што рабіць?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

### Званок у выканкам

Намесніца старшыні Смалявіцкага райвыканкама **Наталля Якубіцкая** адказала "Народнай Волі":

*— Ніхто іх не выганяе ні на якую пляцоўку. Папросту мы будуем там таксама рынак з лепшымі ўмовамі. Калі каго задавальняюць тыя ўмовы, якія ёсць, то няхай там застаюцца.*

**— Людзі кажуць, што тэрыторыю выкупіў нейкі ліванец.**

*— Не бачу ніякай неабходнасці "Народнай Волі" нешта там высвятляць. Рынак будзе "Смірнастройінвест". І больш нічога вам сказаць не магу.*

Нашы пошукі такой фірмы ў інтэрнэце плёну не далі.

КАМПЕТЭНТНА

## Дураць нам галаву!

*Урад рыхтуецца да ацяпляльнага сезона. Тарыфы на электрычнасць і жыллёва-камунальныя паслугі пайшлі ўгару. Прычым супыняцца ўлады не збіраюцца. Як да гэтага ставяцца эканамісты?*

Доктар эканамічных навук, прафесар **Леанід ЗАЇКА** кажа:

— Што яны збіраюцца павышаць? Паніжаць трэба. Народ дураць. Асабіста Лукашэнка хацеў даведацца, колькі каштуе адзін джоўль энергіі, колькі каштуе ўтылізацыя адной тоны смецця, колькі каштуюць затраты на ацяпленне дома. І калі ён праводзіў нараду, то сказаў, што ніхто яму не змог адказаць на гэтыя пытанні. Таму калі ўсім гавораць, што мы плацім мала, то гэта агульнанацыянальная хлусня. Беларусь купляла газ у Расіі па 235 долараў тры гады таму. Пасля заключэння пагаднення аб Мытным саюзе мы купляем газ па 165 долараў. Адпаведна, за апошнія два гады цяпло для Беларусі стала танней. Практычна больш як на трэць. Пытанне: а чаму, як толькі Расія стала газ прадаваць танней, камунальнікі не знізілі плату за цяпло? Мытны саюз тэарэтычна выгадны з пункту погляду спажыўцоў. Газ для нас становіцца танней. Таму ўмоўная "жыроўка" са 100.000 мусіць змяншацца да 70.000 рублёў. Калі ўступілі ў Мытны саюз, мы ахвяравалі многім. Мы спынілі куплю патрыманых заходніх аўтамабіляў. Але зараз мы купляем у Расіі самую танную нафту за апошнія дзесяць гадоў — па 380 долараў. Чаму ў такім выпадку бензін не стаў танней? Спадар прэм'ер-міністр, вам калькулятар даслаць у падарунак? Значыць, усе свае памылкі вы аплачваеце за наш кошт? Па маіх разліках, бензін павінен каштаваць 5000 рублёў за літр. Калі б мы не ўступалі ў Мытны саюз, пытанняў не было б. А так нам дураць галаву. Таму на пытанне, ці гатовы я да павышэння тарыфаў, адкажу наступнае: гатовы, калі будзе апублікаваны спіс усіх растратчыкаў з Мінжылкамунгаса і Міністэрства эканомікі.

ПРОИСШЕСТВИЯ

## В Витебске сгорел автомобиль «Белпочты»

*Мужчина-водитель получил ожоги и был доставлен в больницу в результате возгорания автомобиля, сообщили в пресс-службе Министерства по чрезвычайным ситуациям.*

Инцидент произошел на улице Петруся Бровки в Витебске. Как сообщили в пресс-службе МЧС, при попытке самостоятельно потушить служебный автомобиль ГАЗ водитель получил ожоги рук и головы 1—2-й степени.

Так что, если вы не получили письмо из Витебска (или направленное в город на Двине), не удивляйтесь.

Специалисты устанавливают причину пожара.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Когда чиновники поделятся властью с народом?

*“Если белорусы не определят свое место в глобальных процессах, то будут встроены в них как пассивные участники” — координатор исследований проекта BIPART **Инна РОМАШЕВСКАЯ** о реформировании системы органов государственного управления, трудностях диалога и роли экспертов.*

**— Реформа органов госуправления в Беларуси сводится главным образом к сокращению численности чиновников. Можно ли считать этот процесс реформированием и в каких именно реформах, по мнению экспертного сообщества, нуждаются государственные структуры?**

— Причина скорее даже не в численности, а в необходимости повышения зарплат тем, кто остается работать. Поскольку тезис о повышении зарплат для госслужащих оказался бы не слишком привлекательным для общественности, его, очевидно, попытались смикшировать идеей о сокращении.

Что касается реформ, то исходить тут надо из того, в чем заключается роль государства. Его главная функция — эффективное распределение средств на общественные нужды. Нужно понимать, чего мы хотим достичь как общество в целом и как распределить имеющиеся и ожидаемые средства для достижения этих целей. А затем нанять для этого соответствующих людей: реформировать существующий госаппарат, набрать других, привлечь, если требуется, дополнительные силы.

Основная задача госаппарата — разработка адекватной государственной политики. Важно, чтобы в госструктурах были люди, которые сумеют это делать. Это и есть главная цель реформ.

**— Вы говорите, что обществу нужно определиться, чего именно мы хотим достичь. Однако буквально на днях было опубликовано интервью известного социолога, директора НИСЭПИ профессора Олега Манаева, в котором он говорит, что белорусское общество очень разнородно. Причем видение будущего страны зачастую диаметрально противоположное: Восток или Запад, рыночная или плановая экономика... Как же общество может договориться, какое ему нужно государство и какой госаппарат?**

— Разные взгляды — это нормально. В мире вообще мало монолитных, униформных стран. Практически в любом обществе есть группы, которые видят будущее страны по-разному. И как раз в ситуации, когда они не имеют большого опыта договоров, публичных дискуссий, роль ответственного государства заключается в том, чтобы эту дискуссию организовать.

К тому же по некоторым позициям у больших групп есть консенсус. Скажем, независимость страны, экономические интересы белорусов, сотрудничество со всеми взаимовыгодными партнерами. Так что фундамент, на котором можно строить диалог, уже есть.

**— Но процесс с мертвой точки практически не двигается. Есть интересные инициативы, например, Европейский диалог о модернизации с Беларусью. Однако полноценного диалога пока не получается, несмотря на старания ЕС. Максимум, что есть на сегодня, — это работа экспертных групп по различным направлениям. Почему все попытки усадить различные группы, представляющие белорусское общество, за круглый стол не имеют особого успеха?**

— Первый шаг на пути любых реформ — это оценка существующей ситуации. Необходимо признать, что существующая модель не отвечает текущим и грядущим вызовам и что ее необходимо реформировать. Полноценной оценки ситуации у нас нет. Не могут пока решить эту задачу и независимые эксперты, поскольку нам не хватает информации. Ее либо нет в открытом доступе, либо, как мы подозреваем, порой ее нет как таковой.

Что касается госорганов, то у них, естественно, нет заинтересованности в том, чтобы объявлять о наличии родовых проблем или о том, что система не является адекватной текущим социальному и экономическому моментам.

Вот из-за трудностей с признанием существующей позиции диалог и тормозится.

**— Отчасти реформа органов госуправления — это вынужденная мера: поскольку наблюдается отток чиновников в коммерческие структуры, для сохранения на госслужбе хороших специалистов необходимо увеличивать зарплату. Однако, по имеющейся информации, были предложения более глубоких реформ. Например, вообще ликвидировать ряд министерств и ведомств. Однако эти инициативы не получили поддержки.**

— Тут минимум две причины. Первая — опять-таки не обозначены проблемы текущей ситуации. Проблема заявлена как необходимость повышения доходов госслужащих за счет сокращения аппарата и его оптимизации. Причем возникшие трудности списываются на экономический кризис. Но никто не говорит о том, что государство берет на себя много ненужных функций, а аппарат организован неэффективно. Ведь это означало бы признать наличие более глубоких проблем.

Вторая причина в том, что госаппарат — это становой хребет политической системы и излишние пертурбации могли бы повысить уровень напряженности, которая, по некоторым сведениям, в госаппарате уже имеется.

**— Но что будет итогом такого реформирования? Штаты будут сокращены, а функции — нет. На выходе мы рискуем получить еще более неповоротливую и медлительную структуру?**

— Мы можем оценивать ситуацию только по обрывочным сведениям, поскольку многие документы, касающиеся реформы органов госуправления, предназначены для служебного пользования. Однако уже очевидно, что основные сокращения затронули местные органы власти, которые и так были перегружены различными функциями. И на этом уровне вполне вероятен рост напряженности, связанной с тем, что граждане не смогут получить своевременные ответы на свои социальные запросы.

**— От каких функций государство сегодня могло бы отказаться? И позволит ли этот гипотетический отказ (как вариант — ликвидация ряда министерств и ведомств) более эффективно, оперативно и качественно решать текущие задачи?**

— Когда мы говорим о реформах, всегда полезно опираться на опыт тех стран, которые этот путь уже прошли. Идея, когда государство полностью уходит из ряда сфер и областей, была очень популярна во время трансформации политических режимов в Восточной Европе. Считалось, что государству достаточно уйти, и сразу появятся эффективные рыночные механизмы, возродится гражданское общество. Однако этого не произошло. И образовавшийся вакуум заполнили криминалом, хаосом. Значит, важен грамотный и постепенный уход государства, с передачей функций созданным институтам, готовым их принять.

Однако, как мне представляется, мы сейчас уже говорим об очень далеких планах, поскольку, перед тем как делать столь резкие шаги, необходимо понимать, с какой ситуацией мы имеем дело. И здесь мы возвращаемся к той же проблеме вакуума данных. Независимые эксперты могут пытаться описать проблему, сформулировать ее. Но конкретные данные, если они есть, в руках государства. Первая задача, стоящая сегодня перед госорганами, — найти ответы на вопросы, чем они управляют и какую страну видят перед собой.

**— В Восточной Европе в момент проведения реформ их авторы пользовались огромной поддержкой в обществе. Вспомним поляков и программу реформ Лешека Бальцеровича и его команды. Так что же первично — общественное давление или инициатива самого государства? И может ли государство реформироваться самостоятельно, если в обществе нет ярко выраженного запроса на это?**

— Эти два процесса могут идти параллельно. Общество не спонтанно приходит к пониманию необходимости реформ, если, конечно, оно не доведено до крайности экономическими и социальными проблемами. Реформы — это большая разъяснительная работа. И в обществе, где пока нет традиций самоорганизации граждан, общественных инициатив, логично было бы государству взять на себя ведущую роль в этом процессе.

У нашего государства здесь хорошие позиции, которые пока не используются. Общество в большинстве своем все еще доверяет власти, с большой долей толерантности воспринимает ее инициативы. И ситуация для начала реформ все еще благоприятна.

Но реформы связаны с необходимостью признания текущих недостатков. И как раз тут возникают определенные проблемы. Хотя, в принципе нет ничего сложного в том, чтобы признать: мир развивается, и на каком-то этапе существующая модель тоже должна меняться, чтобы не отстать от общемировых процессов. Это совершенно естественный процесс.

**— Есть ли у независимых экспертов концепция, а может, и детализированные предложения по реформированию органов госуправления?**

— Как раз сейчас мы над этим работаем. И первая задача, которую ставим перед собой, — измерить эффективность работы госорганов. В случае с коммерческой структурой это просто: есть прибыль — значит, работает хорошо. С органами госуправления дело обстоит сложнее, поскольку ответ зависит от того, с чьей точки зрения мы оцениваем эффективность.

Но это задача решаемая — в мире есть подходы для измерений: международные рейтинги, удовлетворенность граждан, партнеров и так далее. И сейчас мы работаем над исследованием, в котором анализируем различные практики оценки эффективности госорганов. Это будет полезно, в том числе и при планировании будущих реформ.

**— Когда исследование будет готово — что станет следующим шагом?**

— Эффективность связана с планированием, исходя из ясно очерченных социальных результатов. Кстати, наши госорганы гораздо эффективнее работают, когда есть исчислимый результат — построить N километров дороги, создать N койко-мест в больницах. А когда возникает ситуация выбора, порой случается затор. Но деятельность нужно строить так, чтобы в ситуации неопределенности был ясный и разумный способ ее преодолеть и выбрать наилучший путь с учетом ситуации, ресурсов и выбранного направления развития.

**— Вы отметили, что глобальная реформа системы госуправления — это дело достаточно далекой перспективы. Однако промедление тоже имеет свои минусы. Чем оно может быть чревато для нашей страны?**

— В худшем случае тем, что если мы не принимаем решения, то кто-то принимает их за нас. И не факт, что этот "кто-то" будет действовать в интересах Беларуси. Мы не находимся в изоляции, и если мы не определяем свое место в глобальных процессах, то все равно будем встроены в них, но уже как пассивные участники.

**— Как-то известный российский журналист Владимир Познер рассказывал, как в США он за несколько часов получил новый паспорт взамен утерянного. Если сегодня начнем реформу госаппарата, то когда мы придем к такому результату?**

— Реформы лишь кажутся массивными преобразованиями, проведение которых займет десятилетия. Опыт таких стран, как Грузия, показывает, что изменений можно добиться за два-три года. Но для этого, конечно, нужна политическая воля. Впрочем, в нашем правительстве работает немало профессионалов, которые понимают, что реформы необходимы и осуществимы.

**Петр СТАРОБИНЕЦ.**

ГРОШЫ

## Паніка

*“Беларусбанк” у ліпені страціў 2 трыльёны рублёў з-за дэвальвацыйнай панікі. Менавіта такую суму фізічныя ўкладчыкі знялі з рублёвых дэпазітаў, не пераводзячы іх у валютныя.*

Паводле звестак “Беларусбанка”, якія прыводзіць АФН, сродкі фізічных асоб на 1 жніўня склалі 44 трыльёны рублёў. У тым ліку 18 трыльёнаў было ў нацыянальнай валюце.

Між тым, паводле папярэдніх звестак банка, на 1 ліпеня сродкі фізасоб складалі 45,5 трыльёна рублёў, у тым ліку амаль 20 трыльёнаў рублёў у нацыянальнай валюце.

Сродкі ў замежнай валюце за ліпень не змяніліся і склалі 3 мільярды долараў ЗША ў эквіваленце. Гэта значыць, што, здымаючы беларускія рублі, беларусы перавялі іх у валюту, але ў банк не панеслі.

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

## Крымінальную справу Тацццяны Бандарчук працягнулі да кастрычніка

Следчаму камітэту Беларусі спатрэбілася яшчэ два месяцы на расследаванне справы былога дырэктара Белдзяржцырка. Пра гэта паведаміў прадстаўнік Следчага камітэта **Павел Траулька**.

Тацццяну Бандарчук падазраюць у эканамічных і службовых злачынствах. Артыкул — сур'ёзны, магчымае пакаранне — таксама. Тым не менш Бандарчук не арыштавалі.

*“Калі Дзяржкантроль вырашыў адкрыць крымінальную справу і мяне проста забіць, дык разбярэцца кіраўнік дзяржавы — ён аб'ектыўны чалавек”*, — заявіла “каралева цырка” ў самым пачатку следства. З таго часу Тацццяна Бандарчук сітуацыю не каментуе.

А яшчэ кажуць, што закон адзін для ўсіх...

## Справа Белспажыўсаюза: дадаюцца новыя эпізоды

Сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці справы супраць кіраўнікоў Белспажыўсаюза, якую распачалі следчыя КДБ напрыканцы ліпеня.

Тады стала вядома пра затрыманне шэрагу начальнікаў Белспажыўсаюза (у тым ліку старшыні Сяргея Сідзько), якія нібыта атрымлівалі вялікія хабары. У першых паведамленнях фігуравалі сумы да 500 тысяч долараў. На гэтым тыдні кіраўнік прэс-службы КДБ **Артур Стрэх** паведаміў падрабязнасці пра аднаго з затрыманых — былога начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Белспажыўсаюза Дзмітрыя Калодзезнага.

*“Калодзезны, калі быў начальнікам упраўлення капітальнага будаўніцтва Белспажыўсаюза, падчас рэалізацыі праекта па будаўніцтве крамы ў Лідзе на вуліцы Тухачэўскага дзейнічаў у інтарэсах камерцыйных структур, наўмысна злоўжываючы сваім службовым становішчам. У выніку Белспажыўсаюзу нанесены страты на суму каля 700 мільёнаў рублёў”*, — расказаў прадстаўнік КДБ.

Але ці мае да гэтага эпізоду дачыненне былы старшыня Белспажыўсаюза Сяргей Сідзько, пакуль не вядома. Артур Стрэх адказаў так: *“У дадзены момант КДБ праводзіць следчыя дзеянні па выяўленні датычнасці да дзейнасці Калодзезнага іншых кіраўнікоў Белспажыўсаюза”.*

Паводле слоў Артура Стрэха, затрыманыя кіраўнікі Белспажыўсаюза і прадстаўнікі камерцыйных структур, якія таксама праходзяць па гэтай справе ў якасці падазроных, знаходзяцца пад вартай у СІЗА КДБ — так званай “амерыканцы”.

## Суд Лівіі ануляваў прысуд траім грамадзянам Беларусі

Нагадаем, што беларусаў, украінцаў і расіян затрымалі ў жніўні 2011 года лівійскія паўстанцы, якія змагаліся супраць рэжыму Кадафі. Усім выставілі абвінавачанне як саўдзельнікам былых улад (яны нібыта аднаўлялі ваенную тэхніку). Самі затрыманыя казалі, што былі завербаваны для нафтаразведкі. Калі расіянін атрымаў пажыццёвае зняволенне, дык усе астатнія, у тым ліку і беларусы, былі асуджаныя на 10 гадоў зняволення.

Пра адмену прысуду ваеннага суда па выніках разгляду апеляцыі стала вядома ў сераду. Цяпер справу перададуць у грамадзянскі суд. Праз некалькі дзён стане вядома, якое абвінавачанне ён выставіць нашым землякам, якіх невядомая сіла занесла ў “гарачую кропку”.

